© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018


# НАША СВАБОДА

№42 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

21 ЛІПЕНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





# 366 дзён нелегітымнасці

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Сёння пачынаецца другі год нелегітымнага прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі. 20 ліпеня 1994 года А.Лукашэнка даў урачыстую прысягу на вернасць Беларусі, і менавіта з гэтай даты пачаўся ягоны пяцігадовы прэзідэнцкі тэрмін. Як няцяжка падлічыць, скончыўся ён 20 ліпеня 1999 года.**

Любая дэмакратычная дзяржава трымаецца на раўнавазе паміж трыма незалежнымі галінамі ўлады – выканаўчай, заканадаўчай і судовай. Кожная з іх мусіць прадстаўляць сабой баланс для дзвюх астатніх. Але пасля прыняцця на рэферэндуме 24 лістапада 1996 года так званай «канстытуцыі са змяненнямі і дапаўненнямі», а фактычна – абсалютна новага Асноўнага закона краіны, у Беларусі адразу ўзнікла праблема з падзелам улады. Мала таго, што па новай «канстытуцыі» парламент і Канстытуцыйны суд страцілі практычна ўсе ўладныя паўнамоцтвы, але яны проста былі разагнаныя. Пасля 24 лістапада 1996 года ў Беларусі засталася толькі адна законая ўлада — выканаўчая. Аляксандр Лукашэнка па-ранейшаму меў законныя паўнамоцтвы кіраваць краінай – да 20 ліпеня 1999 года.



Мінск. «Марш Свабоды-2», 15 сакавіка 2000 года

Фота Ул. ШЛАПАКа/архіў

Аддаючы галасы на рэферэндуме на карысць новай «канстытуцыі», практычна ніхто не думаў пра тое, што ён падаўжае прэзідэнцкія паўнамоцтвы А.Лукашэнкі яшчэ на два гады. Але галоўнае, што так вырашыў ён сам. І, зачытаўшы новую прысягу на новай, *сваёй* «канстытуцыі», пачаў адлічваць новыя пяць гадоў.

З 20 ліпеня 1999 года ў Беларусі не засталося больш ніводнай легітымнай галіны ўлады. І прэзідэнт, і «нацыянальны сход», і судовая ўлада – ад Канстытуцыйнага суда да звычайнага раённага суддзі – кіруюць намі сёння незаконна.

## Хроніка праўлення

**Палітыка**

21 ліпеня 1999 года адбылася масавая акцыя, прысвечаная заканчэнню тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў А.Лукашэнкі. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

# Два гады за пакусанае вуха

## Жонку Чыгіра могуць адправіць у турму за «самаабарону»

Алесь ПАЎЛОВІЧ

Абвінавачванне адразу па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса прад'явіла Фрунзенская раённая пракуратура жонцы экс-прэм'ера Юліі Чыгір. Яе лічаць вінаватай ва ўмышльніцтве ў дзеянні міліцыі ды аказанні супраціўлення ахоўнікам парадку побач з гарадскім судом падчас падзеяў 19 траўня. Найбольшае пакаранне, якое пагражае жанчыне, – два гады пазбаўлення волі. У аўторак следчы Фрунзенскай пракуратуры Дзмітрый Шкарпута ўзяў з Юліі Чыгір падпіску аб нявыездзе.



Жонка экс-прэм'ера распавяла, як праходзіў першы допыт. Што спачатку следчыя абставілі ўсё так, быццам яна яшчэ толькі падазроная і з яе ўдзелам трэба высветліць абставіны справы. У кабінеце следчага Шкарпута адбылася вочная стаўка з маёрам міліцыі Амельчанкам, якога Юлія Чыгір укусіла за вуха 19 траўня. Яна не адмаўлялася, што такі інцыдэнт быў, але, паводле яе словаў, гэта міліцыянты справакавалі сутычку на ганку суда. Бо яны не прапускалі людзей, у тым ліку абодвух сыноў і сястру Міхаіла Чыгіра, на працэс, дзе павінны былі зачытаць прысуд экс-прэм'еру. Падчас сутычкі маёр Амельчанка схапіў Юлію Чыгір ззаду і з сілай пацягнуў у будынак. «Мне было так балюча, што я інстынктыўна ўкусіла таго, хто на мяне напаў. Хай дзякуе, што гэта было вуха, а не што іншае. Я маю права бараніць сябе як жанчына і грамадзянка», — кажа Юлія Чыгір. Аднак пацярпелы ўпэўнены, што «грамадзянка Чыгір» перашкаджала міліцыі і супраціўлялася яе дзеянням. Спадар Амельчанка сцвярджае, што Чыгір не адразу расціснула зубы, і тлумачыць гэта мэтай нанесці яму больш шкоды.

Калі справа сапраўды дойдзе да суда, гэта будзе, як кажуць, «цырк». Як пракуратура будзе даказваць, што Юлія Чыгір узначаліла натоўп раз'юшаных «бандытаў», якія ледзь не ўзялі штурмам гарадскі суд? Канешне, звычайным спосабам. З дапамогай паказанняў міліцыянтаў, якія вымушаныя казаць тое, што ім загадваюць іхныя камандзіры. Аднак маёр Амельчанка на сумесным допыце ўжо прадэманстраваў, што рабіць гэта не зусім лёгка. На пытанне Юліі Чыгір падчас вочнай стаўкі, ці бачыў ён, як міліцыянты штурхалі людзей на ганку суда, маёр адказаў «не», але пры гэтым пачырванеў (так сцвярджае Юлія Чыгір). Што калі на працэсе чырвоным колерам пакрыюцца твары іншых сведкаў-міліцыянтаў? Ёсць немалыя сумненні, ці павераць гэткім паказанням суддзі. А вось дакументальныя доказы ёсць толькі ў руках абароны. Юлія Чыгір ужо прадэманстравала журналістам стужку, знятую сваякамі на ганку суда. Там бачна, як усё адбывалася, і бачна, што бліжэй да ісціны абвінавачаная. Следства зацікавілася гэтай стужкай, але жонка экс-прэм'ера заявіла, што прадставіць яе толькі суду. «Барацьба дык барацьба. Я нейкі час спадзявалася, што ўладам хопіць розуму не раздзімаць ганебную для сябе гісторыю, але цяпер бачу, што памылілася наконт інтэлектуальных якасцяў некаторых асобаў. Яны хочуць скандалу – яны яго атрымаюць. На ўвесь свет стане вядома, як беларускія мужыкі пры ўладзе ваююць з адной бабай», — кажа Юлія Чыгір.

Жонка экс-прэм'ера ўжо падала заявы ў праваабарончыя арганізацыі Беларускі Хельсінкскі камітэт і «Вясна», у міжнародную арганізацыю *Amnisty International*. Ужо ведаюць пра гэтую гісторыю і ў АБСЕ. Варта чакаць працяг. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Ва ўчарашнім нумары газеты *Die Welt* паведамляецца, што ў жэнеўскага судовага следчага Лаўрэнта Каспер-Ансермета ўзмацніліся падазрэнні, што МВФаўскія крэдыты для Расіі, у прыватнасці, апошні транш 4,8 млрд. долараў у жніўні 1998 года, выкарыстоўваліся не па прызначэнні.** Грошы былі пераведзеныя з Федэральнага рэзервовага банка на рахунак аднаго франкфурцкага банка, а адтуль часткамі ў *Bank of Sydney*, *Bank of New York* і ў лонданскі *National Westminister Bank*. На гэтым след грошай губляецца. Па словах галоўнага сведкі абвінавачвання Феліпе Туравера, 240 млн. долараў аселі на рахунку аўстралійскай фірмы, якая належыць дачцэ колішняга расійскага прэзідэнта Таццяне Дзьячэнка. Узгадвае Ф.Туравер і цяперашняга прэм'ер-міністра Расіі Міхаіла Касьянава. Калі той быў в.а. міністра фінансаў, то мусіў дамаўляцца з замежнымі крэдыторамі і складаць спісы прыярытэтных даўгоў. Але выплатаў па іх пазней не ажыццяўлялася.

■ **Незвычайныя нават для сярэдзіны тутэйшай зімы маразы ўсталяваліся ва Уругваі і Парагваі.** Тэмпература апускаецца да -8 градусаў па Цэльсію. Наступствы такой прыроднай нечаканкі трагічныя. І не толькі ў сельскай гаспадарцы, дзе павымярзалі плантацыі кавы, бананаў, ананасаў, тытуню і кукурузы, — ад пераахаладжвання арганізма ўжо памерлі 14 чалавек.

■ **Палата прадстаўнікоў Кангрэса ЗША ўхваліла законапраект, які забароніць праўдзенне рэструктурызацыі знешняга доўгу СССР, пакуль Расія не зачыніць прыналежную ёй радыёлакацыйную станцыю, размешчаную на Кубе.** Прыхільнікі такога закона кажуць, што бессэнсоўна даваць Расіі адтэрміноўку ў выплаце доўгу, калі яна штогод выдаткоўвае да 300 млн. долараў на ўтрыманне станцыі, якая дазваляе сачыць за дзеяннямі амерыканскіх вайскоўцаў, кампаніяў і простых грамадзянаў. Разам з тым, па дадзеных кангрэсменаў, у апошні час на яе рэканструкцыю і абсталяванне расейцы патрацілі 3 млрд. долараў. Амерыканскія заканадаўцы лічаць, што тут працуюць дзесяткі афіцэраў расійскай выведкі.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Курс наяўнага долара на «чорным рынку» **985**


**Наша СВАБОДА – гэта Ваша СВАБОДА!**

**Паважаныя чытачы!**

**Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА працягвае падпіску на II паўгоддзе 2000 г.**

**Вы можаце падпісацца ў любы час, газета будзе прыходзіць да Вас з першага дня наступнага месяца.**


© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## Стыхія пагуляла – пацярпелі мы

**Уляна НІЦКАЯ**

На Магілёўшчыне ліквідуюць наступствы ўрагана, які пранёсся над вобласцю ў мінулыя выхадныя. Найбольш пацярпелі Бялыніцкі, Мсціслаўскі і Краснапольскі раёны. Пашкоджана 316 уласных дамоў, шмат сельскагаспадарчых пабудоваў, у тым ліку 25 жывёлагадоўчых фермаў. На Краснаполлі практычна дзве трэці раёна засталіся без электраэнергіі — там абарвана 170 кіламетраў ліній электраперадачаў. На шчасце, гэтым разам абышлося без чалавечых ахвяраў. Па папярэдніх дадзеных, урон, нанесены ўраганам Магілёўскай вобласці, складае каля 250 мільёнаў рублёў. Па словах магілёўскага губернатара Міхаіла Дражына, урад краіны ўжо паабяцаў выдзеліць на ліквідацыю наступстваў стыхіі 100 мільёнаў рублёў. ■

## «Магутны Божа» страчвае спонсараў

**Уляна НІЦКАЯ**

Увесь мінулы тыдзень прайшоў у Магілёве пад знакам XVIII Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі «Магутны Божа».

На жаль, унікальны, адзіны ў свеце экуменістычны фестываль духоўных спеваў, які яшчэ некалькі гадоў таму карыстаўся вялікай падтрымкай БНФ «Адраджэньне» і ўсіх дэмакратычных сілаў грамадства, з кожным годам становіцца больш сціплым. Пасля скандалу на IV фестывалі, калі з-за планавага ўдзелу ў ім Касі Камоцкай уладамі была забароненая ўся маладзёжная праграма, фестываль страціў большую частку спонсараў. Фонд Сораса, які таксама выдаткоўваў сродкі на правядзенне фестывалю, ужо некалькі гадоў не працуе на Беларусі. Такім чынам, уся фінансавая нагрузка па падрыхтоўцы фестывалю падзялілася паміж касцёлам і Магілёўскім гарвыканкамам.

У гэтым годзе ўдзельнікаў было няшмат, а конкурсная праграма фэсту ўвогуле зведзеная да мінімуму: лепшага выбіралі толькі сярод маладзёжных хораў у трох намінацыях: прыхадскія хоры, маладзёжныя і дзіцячыя калектывы. Гран-пры фестывалю «Магутны Божа» атрымаў маладзёжны хор «Зозуленька» з Крывога Рога — на конкурсным праслухоўванні ён выклікаў літаральна захапленне журы і авацыю ўсёй залы касцёла Святога Станіслава, які і ў гэтым годзе застаўся асноўнай канцэртнай пляцоўкай фестывалю.

Але, нягледзячы на тое, што вонкава ўсё прайшло добра, практычна ўсе музыканты скардзіліся, што на фэсце ўжо няма таго духу свабоды і міжканфесійнага яднання, які панаваў тут яшчэ некалькі гадоў таму. Вельмі непрыемным аказалася і тое, што магілёўскі ўладыка Максім не толькі не прысутнічаў на фестывалі, але і, па чутках, якія ходзяць па горадзе, паставіўся да яго вельмі адмоўна і нават заклікаў праваслаўных вернікаў ігнараваць канцэрты. Дарэчы, большасць калектываў, якія прынялі ўдзел у фестывалі, — праваслаўныя. ■

# Прафсаюзы душаць уладу?

**Рыгор БУЯН**

Гнеўнай заявай на адрас «асобных» прафсаюзаў да іх лідэраў разразілася прэзідэнцкая адміністрацыя. Хоць прама гэтыя структуры ў дакуменце не называюцца, дасведчаныя людзі ведаюць адрасатаў: прафсаюз аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання на чале з Аляксандрам Бухвоставым, работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (Генадзь Фядыніч), прафсаюз АПК (Аляксандр Ярашук) і БКДП (прэзідэнт Віктар Бабаед). Менавіта па іхняй скарзе 11-12 ліпеня ў Мінск прыязджаў генсек Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў Біл Джордан. Кіраўнік МКСП прыгразіў беларускаму ўраду эканамічнымі санкцыямі пры далейшым парушэнні правоў прафсаюзаў.

Бязлікая адміністрацыя называе «беспадстаўнымі» заявы шэрагу прафсаюзаў пра парушэнні іхніх правоў на свабоду асацыяцыяў і ўмяшанне дзяржавы ў іх статутную дзейнасць. «Беспадстаўныя прэтэнзіі асобных прафсаюзных кіраўнікоў на манаполію выказвання інтарэсаў народа Беларусі ёсць не што іншае, як форма ўзурпацыі свабоды волевыяўлення грамадзянаў краіны, якая ўшчамляе і прыцясняе іх канстытуцыйныя правы і свабоды. Іхняя пазіцыя адлюстроўвае няздольнасць быць сапраўднымі праваднікамі інтарэсаў працоўных, арганізаваць плённую прафсаюзную працу ў калектывах, весці канструктыўную дыскусію з апанентамі. Яна вядзе да пасаблення прафсаюзнага руху ў цэлым, скажэння ўяўлення ў замежных краінах пра становішча на Беларусі». Вось такі перл, вытрыманы ў савецкім духу і разлічаны на «простых людзей», якія лёгка паддаюцца замбіраванню, надрукавала ад імя прэзідэнцкай адміністрацыі «Советская Белоруссия» 20 ліпеня.

Што з гэтай нагоды думаюць «асобныя» прафсаюзныя лідэры? Старшыня прафсаюза работнікаў АПК Аляксандр Ярашук у сваіх каментарыях быў досыць стрыманы. «Задача і органаў дзяржаўнага кіравання, і прафсаюзаў заключаецца ў адным: павышаць якасць чалавечага жыцця. Я дужа шкадую, што падобная заява з'явілася цяпер – зараз не час і не месца высвятляць адносіны. Што датычыць нашага прафсаюза, то мы ніякім чынам не ідзём на канфрантацыю. Я спадзяюся, што ўлады знойдуць у сабе мужнасць і магчымасць неякім чынам дэзавуіраваць гэтую заяву».

Між тым, у другой палове дня 20 ліпеня ў сувязі са з'яўленнем заявы прэзідэнцкай адміністрацыі быў тэрмінова скліканы прэзідыум Федэрацыі прафсаюзаў. «Рэакцыя на рэакцыю» аказалася надзвычай рэзкай. ■

**ФОТАФАКТ**




Фота REX ProMedia

● Мінск. Разметка вуліц удзень, а не ноччу, каштуе нерваў кіроўцам і стратаў прадпрыемствам

## Дзяржаўны план «Надзвычайныя сітуацыі»

**Юрась ВЯЧКА**

Міністр па надзвычайных сітуацыях Валерый Астапаў паведаміў 18 ліпеня пра тое, што на Беларусі зацверджана дзяржаўная навукова-тэхнічная праграма «Надзвычайныя сітуацыі», якая прадугледжвае правядзенне авіяцыйнага і наземнага маніторынгу патэнцыяльна небяспечных аб'ектаў і тэрыторыяў. У прыватнасці, праграмай прадугледжваецца распрацоўка мабільных ледарных сістэмаў па вывучэнні пажаранебяспечных лясоў ды тарфянікаў. В.Астапаў сцвярджае, што паніжэнне ўзроўню грунтовых водаў на тарфяніках, якія займаюць 14% тэрыторыі краіны, выклікае надзвычайную заклапочанасць выратавальнікаў: толькі за першае паўгоддзе на 16,2 тысячах гектараў адбылося 5.092 лясныя і тарфяныя пажары. ■

# Клімаў дачакаўся касацыі

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**Справа Андрэя Клімава будзе перагледжаная ў канцы жніўня. У Ленінскім раённым судзе Мінска, дзе пяць месяцаў таму Клімава асудзілі да шасці гадоў калоніі, кажуць, што гэта адбудзецца 22 жніўня. У гарадскі суд ужо адасланыя ўсе 39 тамоў справы дэпутата. Засталося толькі прызначыць суддзяў, якія будуць зноў узважваць на шалях правасуддзя аргументы абвінавачвання і абароны.**

Нагадаю, калегія Ленінскага райсуда на чале з суддзёй Верай Тупік вырашыла, што Клімаў вінаваты ў крадзяжы дзяржаўнай маёмасці ў буйных памерах. Дэпутату далі шэсць гадоў калоніі строгага рэжыму з канфіскацыяй і абавязалі пакрыць гораду страты ў памеры ледзь не 200 тысяч долараў. Клімаў жа сябе вінаватым не прызнае. Ён і ягоныя адвакаты сцвярджаюць, што гэта гарадскі бюджэт застаўся вінны фірме Клімава за дом на Лодачнай вуліцы, які пабудаваў па заказе гарвыканкама бізнесовец. У любым выпадку, кажа бок Клімава, гэтая справа ў кампетэнцыі гарадскога суда, а тое, што яна разглядалася як крымінальная, сведчыць пра пераслед Клімава паводле палітычных матываў.

Хто будзе пераглядаць справу дэпутата, пакуль невядома. У «тройку» могуць быць прызначаныя і Аляксандр Васілевіч, вядомы асуджэннем экс-прэм'ера Міхаіла Чыгіра, і Мікалай Самасейка, які знайшоў магчымасць пазбавіцца гэтай скандальнай справы, і Рыгор Казырыцкі, пра якога кажуць, што ён адзіны ў гарадскім судзе сапраўды незалежны ад улады суддзя, ці яшчэ хто з 12 сябраў калегіі суда Мінска. Ужо сам выбар суддзяў, які зробіць старшыня гарадскога суда Міхаіл Ардзяка, можа сведчыць пра будучае рашэнне, лічаць некаторыя спецыялісты. Але ёсць і іншы погляд. «Не тое істотна, хто будзе разглядаць нашую скаргу, а тое, які загад паступіць суддзям зверху», – лічыць абаронца Клімава Гары Паганяйла. Свой прагноз Паганяйла грунтуе на сённяшняй палітычнай сітуацыі, якую называе «малааптымістычнай». Аднак у жніўні становішча можа змяніцца, прызнае абаронца і выказвае спадзяванне, што гарадскія суддзі сапраўды ўважліва паставяцца да аргументаў на карысць Андрэя Клімава.

Тым часам сам дэпутат працягвае сядзець у мінскім следчым ізалятары. Гэтаму ягонаму сядзенню ўжо два з палавай гады. ■

## Магілёўскі «Позірк» для беларускага гледача

**Яся ГАЮН**

Магілёўскае кінавідэапрадпрыемства «Позірк» плануе дэманстраваць у відэазале папулярныя фільмы, дубліраваныя на беларускую мову. Пачатковы рэпертуар складуць «Пяты элемент», «Болта», «Прыгажуня ў сонным лесе», «Адважнае сэрца», «Страчаны свет: Юрскі перыяд–2», музычныя відэапраграмы. Дапамогу «Позірку» акажуць суполкі, якія займаюцца агучваннем відэапрадукцыі па-беларуску. Дарэчы, беларускамоўная відэапрадукцыя апошнім часам набывае шырокую папулярнасць сярод аматараў відэафільмаў. ■

## ТБМ дазволілі пікетаванне

**Данута СУРЫНА**

Мінскі гарвыканкам разгледзеў заяву Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны аб правядзенні пікета ў падтрымку стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта і патрабаванні беларускамоўнай адукацыі. Са спасылкай на прэзідэнцкі дэкрэт № 36 Мінгарвыканкам (які ўсім зайшчыкам прапаноўвае месцам пікетаў плошчу Бангалор, вядомую ў народзе як «месца выгулу для сабак») дазволіў Таварыству правесці пікет 27 ліпеня бягучага года з 17-й да 19-й гадзіны ў парку «50-годдзя Кастрычніка». Хоць парк і служыць месцам адпачынку для насельніцтва прылеглага раёна (тракторны і падшыпнікавы заводы), аднак ён занадта аддалены ад міністэрства адукацыі, іншых чыноўных установаў і пешаходных патокаў. ■

## Гродна – горад «зайцаў»

**Марыя ГАМОН**

Каля 6 месяцаў правёў за кратамі 47-гадовы гродзенскі «заяц». Кантралёры затрымалі злоснага безбілетніка з падробленым праязным, якім ён карыстаўся ўжо больш як 2 гады. Яшчэ адзін фальшывабілетчык знаходзіцца пад арыштам 25 сутак. Штогод у Гродне за безбілетны праезд у грамадскім транспарце штрафу падвяргаецца 5–7 тысяч пасажыраў. ■

## Прычына смерці бухгалтара – растрата

**Анатоль ЖУЧКО**

У выніку правядзення планавай рэвізіі фінансава-гаспадарчай дзейнасці Полацкага райвыканкама выяўленыя факты сур'ёзнага крадзяжу, дапушчаныя галоўным бухгалтарам райвыканкама. Праверка праводзілася з пачатку лютага да чэрвеня бягучага года і фактычна выявіла, што ў выніку неабгрунтаванага спісання грашовых сродкаў, без прыкладання апраўдальных дакументаў, галоўны бухгалтар райвыканкама за тры гады прысвоіла каля 25 тысяч долараў ЗША.

За некалькі дзён да пачатку праверкі, 31 студзеня, галоўны бухгалтар была знойдзеная мёртвай у сваёй кватэры. Там жа супрацоўнікі праваахоўных органаў знайшлі ўсе дакументы па бухгалтарскай справаздачы выканкама за апошнія два гады. ■

## Узрост званню не перашкода

**Марыя ГАМОН**

У Мінскі лінгвістычны універсітэт прыняты дакументы 76-гадовай абітурыенткі. Абітурыентка, якая прыбыла на інвалідной калясцы, падала дакументы на платнае навучанне на нямецкім факультэце універсітэта. Раней будучая студэнтка выкладала рускую мову. Для таго каб плаціць за навучанне ў ВНУ каля 1 тысячы долараў штогод, пенсіянерка з настаўніцкай пенсіяй пабяцала здаваць сваю двухпакаёвую кватэру. ■

## «10 гадоў – 10 хітоў»

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Менавіта такую назву будзе мець акцыя ў гонар Дня Незалежнасці, заяўку на якую падалі 50 прадстаўнікоў вядучых беларускіх палітычных партыяў. Дзесятую гадавіну абвяшчэння Вярхоўным Саветам дэкларацыі аб незалежнасці і суверэнітэце плануецца адзначыць 27 ліпеня а 17-ай гадзіне ў парку адпачынку імя М.Горкага. Напачатку мерапрыемства запланаваны кароткі мітынг, пасля чаго беларускія рок-гурты «НРМ», «Крама», «Новае Неба», «Камэлот» ды іншыя выканаюць дзесяць найлепшых рок-хітоў на беларускай мове, створаных за гэты час.

Раней Мінгарвыканкам ужо забараніў правядзенне ў парку М.Горкага штогадовага рок-канцэрта «Рок на Купалле», які праводзіла «Беларуская Маладзёжная», спасылаўшыся на рэканструкцыю аркі парку. Цікава, як будзе на гэты раз, тым больш, што, па назіраннях карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ, які жыве непадалёк, ніякай бачнай рэканструкцыі там даўно ўжо не вядзецца. ■

Для размещения редакции газеты
СНИМЕМ В АРЕНДУ ИЛИ
ПРИМЕМ ДОЛЕВОЕ УЧАСТИЕ
В СТРОИТЕЛЬСТВЕ ОФИСА
площадью 100-150 м² в центре Минска
т. 210-02-53
Посредников просьба не беспокоить

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# 366 дзён нелегітымнасці

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

У гэты дзень паўнамоцтвы кіраўніка дзяржавы афіцыйна перайшлі да старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Сямёна Шарэцкага, які літаральна ў наступную ноч пакінуў тэрыторыю Беларусі і з'ехаў у Літву, дзе і жыве да сёньняшняга дня.

17 кастрычніка прайшла адна з самых масавых і найбольш вядомых акцыяў аб'яднанай апазіцыі – «Марш Свабоды», які вызначыўся надзвычай жорсткімі збіваннямі ўдзельнікаў акцыі, але таксама і першымі спробамі супраціву дзеяньням міліцыі – 54 міліцыянты атрымалі цялесныя пашкоджаньні.

У канцы лістапада А.Лукашэнка ўзяў удзел у т.зв. Стамбульскім саміце АБСЕ, дзе паабяцаў знайсці кампраміс з апазіцыяй і правесці цывілізаваныя перамовы з ёй.

У сьнежні мінулага года мы пабачылі чарговы віток расійска-беларускай інтэграцыі – Аляксандр Лукашэнка разам з прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным падпісаў «Дамову аб стварэньні саюзнай дзяржавы». Пра тое, што Б.Ельцыну засталося кіраваць Расіяй менш за месяц, яшчэ ніхто не ведаў.

25 сакавіка ў цэнтры Мінска міліцыя затрымала каля 500 чалавек – проста за тое, што яны знаходзіліся ў раёне плошчы Якуба Коласа. Горад даўно не бачыў такой колькасці міліцыянтаў і спецтэхнікі на вуліцах. Сярод затрыманых былі больш за 40 беларускіх і замежных журналістаў, грамадзяне іншых краінаў і нават асобы з дыпламатычнай недатыкальнасцю.

Напрыканцы сакавіка пачаўся гэтак званы «грамадска-палітычны дыялог» – поўная прафанацыя перамоўнага працэсу з апазіцыяй.

21 красавіка А.Лукашэнка вызваліў ад пасады міністра ўнутраных справаў Юрыя Сівакова. Замест Ю.Сівакова МУСам кіруе Міхаіл Удавікоў, які, дарэчы, дагэтуль толькі выконвае абавязкі міністра.

Травень вызначыўся велізарнымі сьвяткаваннямі 55-х угодкаў Перамогі. Толькі ў сталіцы на гэта пайшло больш за 12 мільёнаў доляраў. Ветэраны атрымалі маленькую прыбаўку да пенсіі.

У траўні ж А.Лукашэнка прызначыў Уладзіміра Усхопчыка намеснікам міністра абароны Беларусі. Гэта выклікала вялікі скандал у стасунках з суседняй Літвой – там у 1991 годзе У.Усхопчык камандаваў падраздзяленнем, якое душыла літоўскую незалежнасць, і таму зараз знаходзіцца ў вышуку як злачынец.

У ліпені А.Лукашэнка падпісаў указ аб правядзенні парламенцкіх выбараў 15 кастрычніка. Апазіцыя адмовілася браць у іх удзел – бо выбары не будуць свабоднымі, справядлівымі і дэмакратычнымі.

**Эканоміка**

У лістападзе А.Лукашэнка падпісаў дэкрэт №40, які дагэтуль застаецца жахам для ўсіх беларускіх прадпрымальнікаў. Згодна з гэтым дакументам, кіраўнік дзяржавы мае права без суда і следства канфіскоўваць маёмасць фізічных і юрыдычных асобаў, якія *падазраюцца* ў нанясенні эканамічнай шкоды дзяржаве.

1 студзеня 2000 года Беларусь атрымала новыя грошы, паменены ў 1.000 разоў. Аказалася, што, апроч колькасці нулёў і колеравай гамы, яны нічым па сутнасці не адрозніваюцца ад старых.

У сакавіку А.Лукашэнка падпісаў дэкрэт, які скарачае выдаткі на ўтрыманне дзяржаўнага апарату на 10%. У Беларусі ўзмацніўся фінансавы крызіс. Адначасова быў падпісаны ўказ аб ліцэнзаванні пасрэдніцкай дзейнасці. Дзяржава яшчэ раз патлумачыла, што адзіны ігрок на эканамічным полі – гэта яна, а ўсе астатнія мусяць адысці ўбок.

У чэрвені А.Лукашэнка адрапартаваў расійскаму прэзідэнту Уладзіміру Пуціну, што «Беларусь гатовая прыняць расійскі рубель».

Напачатку ліпеня Злучаныя Штаты пазбавілі Беларусь прэферэнцыяў у гандлі.

**Зніклыя**

8 верасня мінулага года пры невядомых абставінах разам зніклі першы намеснік С.Шарэцкага Віктар Ганчар і бізнесмен Анатоль Красоўскі. Іх не знайшлі да гэтага часу.

7 ліпеня пры таямнічых абставінах у аэрапорце «Мінск-2» знік тэлеаператар кампаніі ОРТ, беларус Дзмітрый Завадскі. Яго шукаюць і цяпер. Калісьці Д.Завадскі быў асабістым аператарам А.Лукашэнкі, а потым кінуў яго, каб перайсці на ОРТ.

**Прэса**

У канцы верасня пасля судовага разбіральніцтва з Дзяржсакратаром Савета бяспекі Віктарам Шэйманам спыніла сваё існаванне газета НАВІНЫ – папярэднік НАШАЙ СВАБОДЫ.

У чэрвені ціск на прэсу ўзмацніўся. «Белорусская деловая газета» і «Народная воля» атрымалі па пачку папярэджанняў ад Дзяржкамдруку. Праўда, потым ледзь не ўсе яны былі адмененыя.

* * *

Жыццё працягваецца. Да вясны наступнага года нелегітымны кіраўнік беларускай дзяржавы А.Лукашэнка будзе «руліць» Беларуссю. Беларусы чакаюць лепшай долі. Гадзіннік пачаў адлічваць другі год узурпаванай улады. ■

Фота Ул.ШЛАПАКА, архіў

# Армяна-беларускі калідор

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

Візіт у Беларусь прэм'ер-міністра Арменіі Андроніка Маргарана даў падставы аглядальнікам казаць пра пашырэнне вайскова-тэхнічнага супрацоўніцтва з гэтай закаўказкай краінай. Гаворка ідзе пра тое, што беларускія прадпрыемствы па рамонце вайсковай тэхнікі атрымаюць заказы з Арменіі і такім чынам здолеюць палепшыць сваё эканамічнае становішча. Пакуль аб маштабах магчымай здзелкі афіцыйныя асобы не кажуць, але з дасведчаных крыніцаў стала вядома, што гаворка ідзе пра паслугі коштам у некалькі дзесяткаў мільёнаў доляраў. Мы можам рамантаваць сістэмы супрацьпаветранай абароны, танкі, бэтээры. Якраз тую тэхніку, якую актыўна выкарыстоўвае Арменія ў сваім дагэтуль не вырашаным канфлікце з Азербайджанам з-за Карабаха.

Прычым гэта той выпадак, калі не толькі грашыма вызначаецца прыбытак. Арменія на Каўказе даўно і трывала выконвае ролю сатэліта Расіі, і таму паслугі, аказаныя ёй, фактычна становяць паслугамі Расіі. Рэжым Лукашэнкі, які трымаецца пры ўладзе толькі дзякуючы падтрымцы Масквы, не можа не скарыстаць магчымасць яшчэ раз «прыгнуцца» перад сваім начальнікам ды яшчэ і грошы за гэта атрымаць. І беларускі лідэр паспяшаўся прадэманстраваць сваю асабістую зацікаўленасць у стварэнні «беларуска-армянскага калідора», сустрэўшыся з армянскім прэм'ерам Маргаранам нават раней, чым гэта зрабіў беларускі прэм'ер Ярмошын. А тое, што Беларусь фактычна будзе ўцягнутая ў бесперспектыўны вайсковы канфлікт з адпаведнымі наступствамі для іміджу краіны, гэта нашых кіраўнікоў мала турбуе.

Паводле афіцыйных крыніцаў, тавараабарот паміж Беларуссю і Арменіяй у мінулым годзе быў крыху большы за 3 мільёны доляраў. Гэта, канешне, мізэрная лічба для патэнцыялу такіх краінаў. Але, каб гандляваць мірнымі таварамі, патрэбная іншая эканоміка і іншая палітыка. ■

# Брэст правакуе паборы з насельніцтва

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

**Катастрафічная сітуацыя з абласнымі бюджэтамі падштурхоўвае мясцовых вертыкальшчыкаў да хітрамудрых рашэнняў. Як грыбы, пладзяцца заraз *новыя тарыфы*, падаткі і зборы. Брэсцкі аблвыканкам у гэтай гонцы наперадзе ўсіх іншых.**

Першыя эксперыменты супалі па сваім пачатку з завяршэннем 100 дзён знаходжання на пасадзе старшыні аблвыканкама Васіля Далгалёва. 30 мая за яго подпісам з'явілася распараджэнне № 273, якое рэгламентуе новыя тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі. Гарачае водазабеспячэнне на аднаго чалавека павялічваецца з 57,34 рубля да 611,52 рубля, ацяпленне – з 13,83 рубля на адзін квадратны метр агульнай плошчы да 113,93 рубля. Калі ўлічыць падвышаны кошт электрычнасці, то новая «брэсцкая раскладка» кватрплаты адрозніваецца ад усіх папярэдніх тым, што падскочыла адразу ў 8(!) разоў. Сям'я з трох чалавек у двухпакаёвай кватэры павінна плаціць за месяц 9,916 рублёў, альбо на 7,210 рублёў больш.

Распараджэнне на драконаўскія цэны датавана 30.05, а «жыровки» (як называюць у горадзе рахункі ЖЭСаў) выстаўляліся з 15.05. І, напрыклад, толькі адно Брэсцкае ЖРЭА «наварыла» на гэтай хітрамудрасці 36,1 мільёна рублёў.

Саўмін вымушаны быў адрэагаваць на паток скаргаў, і 19.06 Далгалёў атрымаў копію дакладной запіскі мінэканомікі з рэзалюцыяй У.Ярмошына: «Прапануем адмяніць распараджэнне Брэсцкага аблвыканкама ад 30.05.2000 №273-р».

З 1 ліпеня тарыфы скінулі. Гарачая вада каштавала на аднаго чалавека у месяц 611,52 рубля, а цяпер – 214,6 рубля. Гэта менш, чым было, але новыя брэсцкія тарыфы ўдвая перавышаюць тыя, што дзейнічаюць у іншых рэгіёнах Беларусі.

Наіўна, аднак, было б меркаваць, што апаратчыкі Брэсцкага аблвыканкама настолькі смелыя, што ігнаруюць папярэджанні прэм'ер-міністра і знарок падстаўляюць свайго старшыню. Кідок цэнаў стаўся пробным шарам на рэакцыю насельніцтва. Мог жа мясцовы электарат узбунтавацца. Альбо зусім не плаціць кватрплату, як гэта цішком робіць ужо тысячы сем'яў (толькі па Брэсце запазыка кватэранаймальнікаў складае ўжо 159 мільёнаў рублёў). Але не было ў Брэсце дэманстрацыяў, на сваім месцы застаўся і Далгалёў. І самае цікавае, што падчас асабістага наведвання У.Ярмошыным Брэстчыны 15-16 ліпеня яму былі прапанаваны гэтыя праблемныя пытанняў у рэгіёне і спосабы іх вырашэння. Сярод 12 іншых 3 непасрэдна былі патрабавальнымі да новых грашовых пабораў з насельніцтва. Можна смела прагназаваць, як хутка на Беларусі распаўзецца жаласны енк вертыкалі па тым, каб неадкладна адбылося (цытата брэсцкіх прапановаў да кіраўніка ўрада):

павышэнне тарыфаў на гарачае водазабеспячэнне для насельніцтва ў летні перыяд да 50% пакрыцця затратаў сабекошту і транспарціроўкі;

першачарговае давядзенне тарыфаў на газ для насельніцтва да ўзроўню сабекошту, так як газ ляжыць у аснове вытворчасці электра- і цеплаэнергіі;

скарачэнне колькасці льготнікаў на гарадскіх і прыгарадных аўтобусных перавозках (30 катэгорыяў ільготнікаў, альбо 35% усіх пасажыраў карыстаюцца льготамі і 5% ездзяць бясплатна). ■

МЕРКАВАННІ

# Думкі пра ўладу

**Рыгор БУЯН**

**21 ліпеня пачынаецца сёмы і, магчыма, апошні год праўлення Аляксандра Лукашэнкі. Абраны летам 1994-га першым прэзідэнтам Беларусі, праз два гады на рэферэндуме А.Лукашэнка змяніў Канстытуцыю, на якой клянуцца верай і праўдай служыць Радзіме, і працягнуў свае паўнамоцтвы на два гады. І ўвесь цывілізаваны свет, і беларуская апазіцыя не лічаць цяперашняга кіраўніка рэспублікі легітымным. Тым не менш, усім нам за А.Лукашэнкам засталося жыць як мінімум год.**

Вось што думаюць з нагоды гэтай сумнай даты апазіцыйныя палітыкі.

**Станіслаў Шушкевіч**, старшыня першага Вярхоўнага Савета незалежнай Беларусі:

—Я б нічога не хацеў сказаць, апрача таго, што ёсць вельмі блізкае замежжа, якое падтрымлівае Лукашэнку на гэтай пасадзе. Ён фактычна здзекуецца з Беларусі і беларускага народа. Уся бяда ў тым, што ён хоча панаваць, але не ўмее кіраваць.

**Мечыслаў Грыб**, адзін з распрацоўшчыкаў і падпісант Канстытуцыі 94-га года:

—Тыя надзеі, якія людзі ўскладалі на першага прэзідэнта, не апраўдаліся. З гэтым выбарам, зробленым у 1994 годзе, мы страцілі многае.

Улады хваляцца сваімі дасягненнямі і набыткамі. На самой жа справе ўсё наадварот. 75% сугрмадзянаў незадаволеныя сваім эканамічным станам, пры гэтым на кожнага жыхара Беларусі ў суткі нават не прыпадае аднаго долара ЗША. У эканоміцы зрухаў да лепшага няма; апошнія 10 гадоў сельская гаспадарка мінусуе, мінусуе і мінусуе, а сёлета будзе мінусаваць яшчэ больш, чым летась. Ад нас адвярнуўся Захад, прыпынілі членства Беларусі ў Савеце Еўропы, з іншых міжнародных арганізацыяў і ўвогуле выключылі. Няма істотнага прасоўвання і на Усходзе: нават Расія ўжо не верыць «малодшаму брату».

Не лепшая сітуацыя і ўнутры краіны: над Беларуссю нібыта навіс злы рок. Улада апынулася ў руках аднаго чалавека. Правы чалавека, тэлефонные правы, суды – усё вырашаецца па ўказе. Знікаюць людзі; я афіцыйна сёння заяўляю, што ніхто з нас не застрахаваны ад зьнікнення. Чаму зніклі Ганчар, Захаранка, Красоўскі, Завадскі? Мабыць, таму, што ведалі нейкую кампраматную інфармацыю, бо, акрамя ўладаў, гэтыя людзі нікому не патрэбныя былі.

**Анатоль Лябедзька**, адзін з кагорты «маладых ваўкоў», якія прывялі А.Лукашэнку да ўлады:

—Узгадваецца, што на зары прэзідэнцтва Аляксандр Лукашэнка даваў абяцанне, што, калі праз два гады не будзе зрухаў да лепшага, то ён сыдзе ў адстаўку. Сёння, паводле сацыялагічных апытанняў, 75% беларусаў канстатуюць, што іхні эканамічны стан пагаршаецца. Лукашэнку не хапіла ні двух, ні чатырох, ні шасці гадоў, каб людзі адчулі рух наперад.

Можна гаварыць пра тое, што той велізарны патэнцыял, які Лукашэнка меў у 94-м годзе, патрачаны на перманентную несканчаемую вайну.

**Станіслаў Багданкевіч**, супраць якога А.Лукашэнка вылучыў «15 абвінавачванняў», прычым ні адно з іх не даказанае:

—Усе тыя спадзяванні, якія мела большая частка беларускага грамадства ў адносінах да Лукашэнкі, аказаліся нерэалізаванымі. Ён абяцаў інтэлігенцыі свабоду СМІ – іх няма; абяцаў запусціць заводы, прадпрыемствы – не запушчаныя, а знос абсталявання складае 75-80%. Мінстат назваў лічбы, што 47% сем'яў знаходзяцца за мяжой беднасці.

Лукашэнка абяцаў, што Беларусь будзе паважанай краінай – Беларусь знаходзіцца ў міжнароднай ізаляцыі. Абяцаў пакончыць з карупцыяй – усё ягонае атачэнне і з'яўляецца галоўнымі карупцыянерамі.

Мяне нядаўна публічна крытыкаваў Станіслаў Шушкевіч за тое, што я сказаў: хай бы Лукашэнка цараваў колькі заўгодна, абы толькі не ўмешваўся ва ўнутраную палітыку, у знешнюю палітыку. Гэта абышлося б краіне намнога танней, чым ягонае праўленне.

Вось таму, у адрозненне ад сваіх калегаў-дэмакратаў, я не падтрымліваю ідэю байкатавання парламенцкія выбары, а ўсе сілы скіраваць на выбары прэзідэнцкія. Лукашэнка ніколі не аддасць уладу добраахвотна; гэта ілюзія, што можна ігнараваць парламенцкія выбары і выйграць прэзідэнцкія. У 110 акругах Лукашэнка не здолее стопрацэнтна сфальсіфікаваць выбары, а ў адной – «прэзідэнцкай» – акрузе ён гэта зробіць. І нават калі такі парламент не мае ніякіх паўнамоцтваў, то ён усё ж прадстаўнічы орган, прымаючы ўдзел у выбарах якога, мы маглі б пацікаў захопліваць плацдарм улады.

**Міхаіл Чыгір**, кандыдат у прэзідэнты на апазіцыйных выбарах у траўні 1999 года, пасля якіх 8 месяцаў правёў за кратамі і быў асуджаны:

—Для ўсіх ўжо відавочна: чым даўжэй правіць Лукашэнка, тым горш для краіны. Кожны адчувае вынікі ягонага праўлення на сабе. Калі ў першыя гады Лукашэнка яшчэ прыслухоўваўся да думак спецыялістаў, няхай і не да ўсіх, то ў апошнія гады ён ні да кога і ні да чога не прыслухоўваецца. Нездарма, прадстаўляючы Уладзіміра Ярмошына на пасадзе прэм'ер-міністра, Лукашэнка казаў: педалі будуць у яго, а руль – у мяне.

Украіна, якая напачатку мела куды горшыя стартавыя ўмовы, чым Беларусь, пастаўляе на беларускі рынак медыкаменты, тытунёвыя вырабы... Праз год-два, я ўпэўнены, яна будзе значна пераўзыходзіць нашую рэспубліку па патэнцыяле.

Таму я ўсё буду рабіць, каб удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах. Што да выбараў парламенцкіх, то апазіцыя выпрацавала адзіную пазіцыю – не ўдзельнічаць. ■

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Абяцанкі – цацанкі. Гарантыя 6 гадоў






Колькі ні кажы, што курыца – птушка, лятаць яна не пачне. Падобна і з эканамічным станам нашай краіны: колькі ні ўпэўніваюць народ урад і падпарадкаваныя яму СМІ, што жыць беларусам становіцца ўсё лепей і весялей, людзі, пагледаючы на свой заробак і чакаючы яго месяцамі, не ў стане трымацца такога фантастычнага меркавання. Гэта неаспрэчным чынам адлюстроўвае тыя негатыўныя працэсы, якія развіваліся ў Рэспубліцы Беларусь на працягу апошніх гадоў, калі ўладу трымаў А.Лукашэнка (5 канстытуцыйных плюс 1 год без канстытуцыйнага апірышча). У гэтай сувязі паказальныя сталі вынікі сацыялагічнага апытання, якое правялі ў чэрвені бягучага года Цэнтр сацыяльных і экалагічных даследаванняў сумесна з НІСЭПІ. Было апытана 1.493 рэспандэнты (нацыянальнае апытанне), апрача гэтага, паралельна праводзілася апытанне лідэраў грамадскай думкі (палісімэйкеры, лідэры мас-медыя, бізнесмены, эксперты-аналітыкі, усяго 56 чалавек, з іх 23 прадстаўлялі дзяржаўныя структуры, 33 – працуюць у недзяржаўных). Гэтакая паралель здаецца надта цікавай, бо апрыорна паміж меркаваннямі лідэраў і рэспандэнтаў ад народа існуе пэўная і зразумелая розніца, абумоўленая тым, што народ мае менш інфармацыі, не асэнсоўвае яе прафесійна і змушаны больш давяраць пачуццям, якія старанна культывуюць ідэалагічныя службы выканаўчай улады і праўрадавыя сродкі масавай інфармацыі. Адказы на пытанне, пра погляды на змены ў эканамічнай сітуацыі краіны за апошні год, паказваюць бясспрэчнае адзінства і лідэраў, і народа ў адмоўным успрыняцці таго, што адбываецца ў Беларусі.




Паколькі А.Лукашэнка знаходзіцца пры ўладзе ўжо 6 гадоў, а гэта, калі браць па амерыканскіх мерках, паўтара прэзідэнцкага тэрміну, дык адпаведна народ і кожны чалавек паасобку паспелі сфармуляваць для сябе ацэнку таго, ці здольны А.Лукашэнка трымаць свае абяцанні нацыі, урачыста дадзеныя пад час выбарчай прэзідэнцкай кампаніі. Вось якую карціну адносінаў да яго абяцанак паказваюць адказы рэспандэнтаў нацыянальнага апытання і лідэраў.

Варта адзначыць, што ўсе лідэры недзяржаўных структураў лічаць, што А.Лукашэнка не выканаў ніводнага абяцання наогул.

Сума вышэйпададзеных ацэнак адпаведна вызначае агульнае стаўленне насельніцтва да здольнасцяў А.Лукашэнкі па кіраванні краінай за прамінулыя шэсць гадоў.

Неабходна дадаць, што адказ «Хутчэй незадаволеныя» далі 69,6% лідэраў, якія працуюць у дзяржаўных структурах, і 97,0% – са структураў недзяржаўных. Інакш кажучы, палітыка А.Лукашэнкі займела адмоўную ацэнку (амаль 70%) нават у тых колах, якія ён стварыў і на якія пакуль што абапіраецца.

Карціна выклікае ўражанне, што тэрмін гарантыі на цярпенне такой улады вычэрпваецца. ■

**Па матэрыялах НІСЭПІ**




**ЗАМЕЖЖА**

## Літва: новы закон аб выбарах

У аўторак літоўскі парламент прагаласаваў за змяненне правілаў, па якіх будуць выбірацца на агульных выбарах у кастрычніку больш палова яго членаў. Згодна з новым выбарчым законам, 71 з 141 кандыдатаў стануць дэпутатамі, калі ў першым раўндзе набяруць большасць галасоў.

Нагадаем, што па папярэднім заканадаўстве кандыдат павінен быў набраць 50% галасоў або па колькасці галасоў абагнаць свайго бліжэйшага канкурэнта. Для вызначэння народнага абранніка ў большасці выпадкаў неабходна было праводзіць другі тур выбараў. Астатнія 70 галасоў будуць размяркоўвацца сярод найбольш папулярных у насельніцтве партыяў (галасаванне па партыйных спісах). Раней прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус наклаў вета на закон, спасылаючыся на немэтазгоднасць унясення ў сістэму якіх-небудзь змяненняў за тры месяцы да выбараў. Аднак парламент у аўторак прадвызначыў прэзідэнцкае вета 72 галасамі «за», 32 «супраць» пры 10, хто ўстрымаўся. Аналітыкі, ацэньваючы новы закон, гавораць, што ён асабліва выгадны кіруючай партыі, якую падтрымлівае асноўная частка выбаршчыкаў. Праціўнікі ж новаўвядзення мяркуюць, што для кіруючай кааліцыі гэты закон – спосаб выйграць выбары. ■

## Польшча вырашыць праз рэферэндум

Кіраўніцтва Польшчы вырашыла правесці агульнанацыянальны рэферэндум па пытанні аб уступленні краіны ў Еўрапейскі Саюз. Прэм'ер-міністр Польшчы Ежы Бузек заявіў, што плебісцыт будзе праведзены не пазней 2002 года. У выпадку станоўчага выніку рэферэндуму, дадаў ён, Польшча будзе гатовая ўступіць у ЕС у 2003 годзе. Згодна з праведзеным у чэрвені апытаннем грамадскай думкі, 60% палякаў выступяць за інтэграцыю Польшчы ў ЕС, паведамляе *BBC*. ■

## Да «чорных дзірак» у 2025 годзе

Кіраўніцтва амерыканскага агенцтва NASA мае намер адправіць касмічную місію для даследавання «чорных дзірак» у 2025 годзе.

Вучоныя лічаць, што гэтыя малавывучаныя з'явы прадстаўляюць з сябе касмічныя аб'екты, вялікай сілы прыцягнення, дазваляючай ім прыцягваць не толькі прадметы, але і святло. Пакуль гэты праект не атрымаў адабрэння ўрада, але ў NASA лічаць, што яго неабходна прыняць, таму што гэтае даследаванне дазволіць зразумець прыроду «чорных дзірак», працэс з'яўлення і знікнення зорак, а таксама месцазнаходжанне так званай «нябачнай матэрыі». У рамках гэтай місіі ў космас будуць накіраваныя некалькі радыётэлескопаў. Асноўным аб'ектам даследавання стануць памежныя зоны дзеяння гравітацыйных сілаў «чорных дзірак», перадае агенцтва ЭФЭ. Да гэтага астраномам не ўдавалася атрымаць адбітак «чорнай дзіркі». Вывад аб існаванні такой з'явы зроблены на падставе паводзінаў касмічных аб'ектаў, якія знаходзяцца каля іх. Супрацоўнік аддзела NASA па праграмах вывучэння структуры і эвалюцыі Сусвету Ален Банер назваў «чорныя дзіркі» сапраўды дзіўнымі месцамі, у якіх спыняецца час. Па меркаванні экспертаў, гэтае даследаванне дазволіць таксама даказаць або адвергнуць існаванне аналагічнай «чорнай дзіркі» ў цэнтры нашай галактыкі, у раёне Млечнага шляху. ■



## Новыя банкноты Японіі

У Японіі да саміту Вялікай васьмёркі на Акінаве будзе выпушчаная новая банкнота ў 2 тысячы йен.

Агенцтва *Reuters* паведамляе, што прэм'ер-міністр краіны Йосіра Моры перадасць лідэрам краінаў «васмёркі» новыя банкноты. Такім чынам, кожны з іх стане багацейшым, прыкладна, на $18.

Новыя банкноты не друкаваліся ў Японіі ўжо больш як сорак гадоў. У адрозненне ад іншых папяровых грошай, на купюрах у 2 тысячы йен не будзе партрэта гістарычнай асобы. На адным з бакоў банкноты намаляваныя вароты замка на Акінаве. ■

## Мінулае ўплывовых чыноўнікаў

У Венгрыі працягваецца праверка мінулага ўплывовых чыноўнікаў: суддзяў, пракурораў, лідэраў партыяў, якія атрымоўваюць дзяржаўную падтрымку, а таксама журналістаў. Такое рашэнне нядаўна прыняў венгерскі парламент. У выніку прынятага рашэння колькасць асобаў, якіх датычыць закон люстрацыі, павялічылася да 10 тыс. чалавек. Камісія па люстрацыі заклікае цяпер добраахвотна падаць у адстаўку тых асобаў, якія былі членамі дзеючай да 1945 года венгерскай фашысцкай партыі «Скрыжаваныя стрэлы», якой-небудзь з ваенізаваных структураў па навядзенні парадку ў перыяд 1956–1957 гадоў, супрацоўнікам або агентам органаў унутранай бяспекі мінулага рэжыму і тых, хто па абавязку службы чытаў справаздачы спецслужбаў. Калі дадзеная асоба адмаўляецца падаць у адстаўку, яе імя і інфармацыя аб яе мінулым належыць агалошванню. ■

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Маленькая публіка – маленькія заробкі?

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

**Прынамсі, што да дабрабыту, то беларуская інтэлігенцыя зусім не далёкая ад народа. Тыя, хто заняты ў культурніцкай сферы, зарабляюць болей за калгаснікаў, а тыя амаль нічога не зарабляюць Але не сакрэт, што гарадское жыццё куды даражэй, чымсьці ў вёсцы. Вось і даводзіцца творчай інтэлігенцыі замест сцэны, пэндзля ці асадкі падпрацоўваць на рэстаўрацыйных пляцоўках, «чаўночыць», гандляваць у Ждановічах і на «Дынама». Напрыклад, у Тэатры юнага гледача сярэдняя зарплата – 14—22 тысячы рублёў. Нашмат ніжэй пражытачнага мінімуму.**



Чалавек, а тым больш беларус, прывыкае да ўсяго, цярпіць, але рана ці позна ўсё роўна настае крытычны момант. Напрыканцы гэтага тэатральнага сезона творчы калектыў ТЮГа абурыўся. Прычым — да намераў застрайкаваць. Мінкультаўскія чыноўнікі трохі злякаліся і заварушыліся. У мінулым месяцы на агульны ТЮГаўскі сход прыйшоў нават міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, дзе паабяцаў з 1 ліпеня ўвесці да зарплаты супрацоўнікаў тэатра каэфіцыент 1,4. Разам з тым, паколькі такое павелічэнне заробкаў істотна сітуацыю не палепшыць, на сходзе гаварылася таксама пра тое, каб дазволіць тэатру самастойна распараджацца прыбыткамі. Зараз зарплата фіксаваная і не залежыць ні ад колькасці паказаных спектакляў, ні ад колькасці прададзеных квіткоў.

Да таго некалькі тыдняў таму ТЮГ звярнуўся па аўдыенцыю да А.Лукашэнкі. Вось што распавёў учора пра сітуацыю вакол вырашэння праблемаў тэатра ягоны галоўны рэжысёр Андрэй Андросік: «Мы чакаем сустрэчы з прэзідэнтам. Магчыма, зможам давесці пра складанасць і адказнасць нашай справы. Чакаем дзеянняў ад міністэрства культуры наконт таго, што было паабяцана зрабіць. Чакаем цярпліва. Пакуль што. Калі 11 жніўня прыйдзе з адпачынку і збярэцца трупа, то трэба будзе і нам, і чыноўнікам даваць адказ за тое, што застаецца ў паветры». Але тое-сёе зроблена. У прыватнасці, выканана абяцанне павялічыць зарплату на 40%, мінкульт разглядае магчымасць арганізацыі гастроляў ТЮГа ў Екацярынбургу. Як кажа сп.Андросік, прынамсі, на ягонай памяці (ён у тэатры 4 гады) такіх далёкіх, «сапраўдных» гастроляў дагэтуль не было. Яшчэ, дарэчы, у планах ТЮГа ўдзел у двух айчынных вераснёўскіх фестывалях з самай лепшай сваёй пастаноўкай – «Палачанкай» паводле Аляксея Дударава.

Аднак абсалютна не выключана, што яшчэ да восені можа з'явіцца шэраг кадравых акцёрскіх стратаў. Усё будзе залежаць ад таго, як дзяржава адрэагуе на просьбы тэатра. І, між іншым, не толькі яго.

На мінулым тыдні адначасова адразу да некалькіх дзяржструктураў – у адміністрацыю А.Лукашэнкі, Савет міністраў, Мінгарвыканкам і мінкульт — з адмысловым лістом звярнуліся Беларускі рэспубліканскі камітэт і Мінская абласная арганізацыя прафсаюза работнікаў культуры. У ім пра «нізкі ўзровень заработнай платы ўсіх без выключэння катэгорыяў акцёрска-рэжысёрскага і творча-абслугоўчага персаналу» гаворыцца як пра неадпаведны ролі ТЮГа, між іншым, тэатра беларускамоўнага, хоць бы ў той жа сістэме дзіцячага выхавання. ТЮГ звыкліся лічыць нейкім другасным тэатрам, хоць менавіта тут, без перабольшвання, рыхтуюць гледачоў для іншых «дарослых» тэатраў. Прафсаюзы згадваюць, што «гэта заўсёды належным чынам ацэньвалася савецкім урадам БССР і кампартыяй» (неяк міжволі дадаецца сюды слова «нават»). Трэба ўлічваць таксама складаныя, псіхалагічна напружаныя асаблівасці акцёрскай гульні, якая выяўляецца, напрыклад, у тым, што ўзроставая спецыфіка сцэнічных вобразаў фізічна адрозніваецца ад узросту акцёраў.

У якасці вырашэння праблемаў ТЮГа прапануецца надаць яму статус Нацыянальнага тэатра, а як вынік, падвысіць каэфіцыент зарплаты да 1,7. Хоць у міністэрстве культуры кажуць, што ўжо «вывучаюць пытанне» аб перайменаванні ТЮГа, яно на гэта наўрад ці пойдзе, каб не ствараць прэцэдэнту. Інакш вартасць статусу «Нацыянальны» проста знівеліруецца. Цяпер у краіне толькі (ці ажно?) два драматычныя тэатры – Купалаўскі і Горкаўскі — маюць падобны статус. Што да ТЮГа, то гэтае пытанне будзе «вывучацца», на думку прафсаюза работнікаў культуры, доўга.

Але чаму б, нарэшце, не ўвесці ў рэальнае дзеянне ўказ Лукашэнкі ад 29 снежня 1999 года, які прадугледжвае для тэатральна-відовішчных установаў права вызначаць свабодныя кошты на 75% білетаў. І каб тэатры, у тым ліку і ТЮГ, маглі вольна, самахоць распараджацца даходамі. Зараз механізм выканання гэтага ўказа не працуе зусім.

З другога боку, слушна, што для дзяцей кошты на спектаклі ўсё ж павінны быць як мага таннейшымі, але тады дайце акцёрам людскія грошы. Нельга ж трымаць таленавітых людзей у стане жабракоў. ■

КНІГАРНЯ

# Зачараваныя уніяй, пакараныя за яе

**Юры МАТУЛЕВІЧ**

**С.Падокшын. Унія, дзяржаўнасць, культура. Філасофска-гістарычны аналіз. Мінск, «Беларуская навука», 2000**




Гэта першая ў нас кніга, якая дасціпна і каратка апавядае пра перадумовы, змест і наступствы уніі цэркваў. Аўтар – вядомы даследчык, знаны філосаф гісторыі, а праблемамі, напрамую ці ўскосна звязанымі з уніяй і наогул з канфесійным жыццём сярэднявечнай Беларусі, займаецца болей за 30 гадоў. Таму даследаванне стаіць на падмурку вялікага фактычнага і літаратурнага матэрыялу. Як акадэмічны навуковец С.Падокшын пазбег публіцыстычнай заангажаванасці і аб'ектыўна прасачыў уплыў уніі на грамадскае, дзяржаўнае, нацыянальнае жыццё Беларусі амаль за шэсць стагоддзяў (калі адлічваць час ад Фларэнцыйскай уніі, ажыццёўленай намаганнямі вялікага князя Вітаўта). Асаблівую вартасць кнізе надаюць асэнсаванні сённяшніх праблемаў станаўлення нацыянальнай царквы і адносінаў да уніі розных палітычных колаў і груповак.

Таксама гэта першая (і здаецца, адзіная) у нас кніга па гісторыі царкоўнага жыцця на Беларусі, якая напрамую прапануецца ўвазе **«дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў рэспублікі»**, а ўжо потым — выкладчыкам, аспірантам, студэнтам, ліцэістам і ўсяму цікаўнаму паспалітаму люду *«ў якасці дапаможніка па айчыннай гісторыі, культуралогіі, рэлігіязнаўстве, паліталогіі, філасофіі»*.

торнага хрышчэння хрысціянаў іншых канфесіяў, у той час як Масква патрабавала гэтага ад беларусаў і ўкраінцаў, якія перасяляліся ў Рускую дзяржаву (напрыклад, Сімяон Полацкі мусіў прымаць у Маскве паўторнае хрышчэнне). Розніца існавала і ў стане адукацыі, і ў кантролі над царквой: у Маскве царкву кантралявала царская ўлада, на Беларусі і Украіне — свецкія колы грамадства. У Беларусі і Украіне склаўся іншы тып свецкага і духоўнага дзеяча, як піша аўтар, «дзеяча на мяжы культураў». Бальшыня з іх вучылася ва універсітэтах Еўропы.

Уніяцкая царква не здолела стаць нацыянальнай царквой у Беларусі. За гэта давялося расплачвацца пасля далучэння да Расійскай імперыі. «На наш погляд, — піша аўтар, — існавала толькі тэндэнцыя ператварэння уніяцтва ў нацыянальную беларускую царкву, але перашкодай у рэалізацыі гэтай тэндэнцыі стаў шэраг прычынаў, сярод якіх каталізацыя і паланізацыя «вярхоў», забарона уніяцтва ў 1839 годзе».

Не стала нацыянальнай беларускай і праваслаўная царква. Беларуска-ўкраінскае праваслаўе патрапіла ў поўную залежнасць ад Масквы, страціла сваю аўтаномію, уніфікавалася і атаясамілася з расійскім праваслаўем. Як і апошняе, яно пачало выступаць прыхільніцай ідэяў адзінай і недзялімай Расійскай імперыі. Не стала нацыянальнай царквой на Беларусі і каталіцтва, паколькі мела моцную прапольскую арыентацыю, асабліва пасля падзелаў і знікнення Рэчы Паспалітай з палітычнай карты. Ніводная царква ў сваёй ідэалогіі і дзейнасці не здолела асвоіць нацыянальную ідэю, так як яе асвоіла, прыкладам, у Расіі руская праваслаўная царква, а ў Польшчы — каталіцкая. Гэтая сітуацыя захоўваецца і сёння.


Брэсцкая Мікалаеўская царква. Тут была прынятая унія цэркваў

Аўтар даступна падае гістарычныя і палітычныя ўмовы, якія нарадзілі ідэю уніі ў Беларусі і Украіне, праследжвае намаганні тагачасных палітыкаў па ўтварэнні самастойнай царквы ў ВКЛ, якая б абараняла інтарэсы дзяржавы. У нас, на жаль, дзейнічаюць даўно ўсталяваныя стэрэатыпы прымітыўнага стаўлення да уніі (ці сляпы пафас, ці сляпая непрыязнь). На фоне прадстаўленых аўтарам асэнсаванняў гісторыі і сэнсу падзеяў звычныя спрошчаныя клішэ сведчаць выключна пра распаўсюджаную ў грамадстве недасведчанасць.

Даказальна прадстаўленае аўтарам узнікненне адметнага менталітэту «беларуска-ўкраінскага праваслаўя», які значна розніўся ад менталітэту «рускага праваслаўя». Прыкладам, расійская царква была пад уладай маскоўскага патрыярха, беларуска-украінская – намінальна падпарадкоўвалася канстанцінопальскаму патрыярху, а фактычна «мітрапаліту Кіеўскаму, Галіцкаму і ўсея Русі». Расійская праваслаўная царква была дзяржаўнай, беларуска-украінская ў межах сваёй дзяржавы – апазіцыйнай і гнанай. Беларуска-ўкраінскае праваслаўе не вымагала паўторнага хрышчэння хрысціянаў іншых канфесіяў...

Аўтар завяршае сваё цікавае даследаванне думкай пра неабходнасць вярнуцца «да скарынінскай мадэлі аб'яднання ўсіх існуючых канфесіяў на падставе беларускай ідэі і ўзаемнай талерантнасці». Аднак засведчаны ў кнізе трагічны змест царкоўных уніяў у папярэднія стагоддзі ўзносіць такое пажаданне найменш на ўзровень утопіі. ■

# Голас народа. Як ён гучыць у Беларусі

**Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў паўстала напачатку 1997 года як добраахвотнае аб'яднанне незалежных арганізацыяў. За прамінулыя тры гады колькасць арганізацыяў, якія ўваходзяць у асамблею, павялічылася з 250 да больш чым 500. Агульнанацыянальнага значэння арганізацыямі, якія ёсць сябрамі асамблеі, можна назваць Беларускую асацыяцыю журналістаў, ПЭН-цэнтр, фонд Сапегі, фонд «Дзеці Чарнобыля» ды іншыя. Падобная вялікая структура ўзнікла ў Беларусі ўпершыню.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ, новаабраны старшыня рабочай групы асамблеі, адказвае на пытанні карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ.**



***— Спадар Алесь, распавядзіце, калі ласка, пра становішча ў нас трэцяга сектара.***

— Трэці сектар ва ўсім свеце займае істотнае становішча. Звычайна ў гэтым сектары аб'ядноўваюцца людзі па інтарэсах, якія маюць нейкую агульную ідэю, напрыклад, праваабарончага характару, арганізацыі, якія бароняць правы спажыўцоў, якія займаюцца развіццём самакіравання, аховай здароўя, сацыяльнымі пытаннямі, нават развядзеннем экзатычных кветак і г.д. Такія арганізацыі ва ўсім свеце традыцыйна называюцца трэцім сектарам (першы – сектар улады, другі — бізнес, трэці – няўрадавыя арганізацыі, чацвёрты – прэса). У цывілізаваным свеце да тых праблемаў, якія падымаюцца грамадскімі арганізацыямі, уважліва прыслухоўваюцца, бо гэта – голас народа.

***— А што назіраецца ў грамадскім сектары Беларусі?***

— Асамблея была арганізаваная ў Беларусі з-за адчування пэўнай небяспекі да існавання грамадскіх арганізацыяў. Нашыя ўлады не падтрымліваюць развіццё трэцяга сектара і можна сказаць, што нават шмат у чым перашкаджаюць самымі рознымі спосабамі. Напрыклад, да мінулага года было зарэгістравана пасля вялікага буму развіцця няўрадавых арганізацыяў больш за 2 тысячы самых разнастайных аб'яднанняў па інтарэсах. Дзяржава вырашыла ўзяць фармаванне трэцяга сектара пад кантроль і дзеля гэтага знайшла такі спосаб, як перарэгістрацыя гэтых арганізацыяў, пры гэтым значна ўскладніўшы фармальны бок. Больш таго, канчатковае рашэнне пра рэгістрацыю такіх арганізацыяў прымае пазазаконная камісія (паводле закона, такое рашэнне павінна прымаць міністэрства юстыцыі), якая працуе ў нетрах выканаўчай улады. Арганізацыі рэгіструюцца па некалькі месяцаў, на яе трацяцца істотныя грошы, прыдумваюцца ўсялякія адчэпкі і прычыны для таго, каб найбольш няўгодныя арганізацыі не перарэгістраваліся. Не прайшла перарэгістрацыю значная колькасць актыўных грамадскіх арганізацыяў. Задача асамблеі, якая была пастаўленая яшчэ напачатку перарэгістрацыі ў 1999 годзе і актуальная цяпер, – арганізацыя кампаніі дапамогі ў рэгістрацыі такім арганізацыям, каб іх легітымізаваць, легалізаваць і пашырыць сферу іхняй дзейнасці.

Жаданне аўтарытарнай дзяржавы кантраляваць абсалютна ўсё, што адбываецца ў краіне – партыі, прафсаюзы, недзяржаўныя арганізацыі, прэсу, — вынікае са страху, што тыя ініцыятывы, якія не адследжваюцца, прывядуць урэшце да нейкіх непажаданых вынікаў. Адной з правакацыяў у адносінах да трэцяга сектара можна лічыць так званы «дыялог» з грамадскімі арганізацыямі. Я называю гэты «дыялог» сапраўды грамадскай правакацыяй, таму што, перш за ўсё, гэта быў нераўнапраўны дыялог. Асамблея прыняла заяву не ўдзельнічаць у ім, і да гонару абсалютнай большасці арганізацыяў мы не бралі ўдзелу ў гэтым дыялогу.

З вялікай увагай асамблея назірае, як адбываецца падрыхтоўка да выбарчай кампаніі, таму што частка арганізацыяў спецыялізуецца на падрыхтоўцы насельніцтва да назірання за выбарамі, законным іх правядзеннем. Рабочая група асамблеі цвяроза ацэньвае палітычную сітуацыю і падтрымлівае тыя рэзалюцыі, якія прыняў Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі, і перш за ўсё тое, што без выканання асноўных патрабаванняў па дэмакратызацыі сітуацыі ў Беларусі, дэмакратызацыі выбарчага закона, павялічэння паўнамоцтваў парламента – і палітычныя партыі, і грамадскія арганізацыі адмаўляюцца ўдзельнічаць у гэтым выбарчым фарсе.

***— Як складаюцца адносіны трэцяга сектара з дзяржавай?***

— У дэмакратычных краінах дзяржава дапамагае дзейнасці недзяржаўных арганізацыяў, у тым ліку і фінансава. Гэта абавязковая ўмова дзеля існавання трэцяга сектара. У нас пра гэта немагчыма падумаць, але і мы не хочам быць залежнымі ад дзяржавы, і асноўнае наша патрабаванне – каб дзяржава не перашкаджала працы трэцяга сектара. ■

**Гутарыла Таццяна РЭВЯКА**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



СПОРТ

## Беларускі папаліся на допінгу

Алесь ШМЯЛЁЎ

Вельмі нечаканую навіну паведамілі ў панядзелак сусветныя спартыўна-інфармацыйныя каналы. Вядомыя беларускія спартсменкі, бронзавыя прызёры мінулых алімпійскіх гульняў у Атланце ў акадэмічнай грэблі, Наталля Лаўрыненка і Наталля Стасюк былі прызнаныя вінаватымі ў прымяненні допінгу (забароненых медпрэпаратаў) і пажыццёва дыскваліфікаваныя.

Выступалі гэтыя дзве спартсменкі ў складзе так званай «васьмёркі» (гэта калі ў спартыўнай лодцы сядзяць адразу васьмёра), і выступалі на праходзячым у швейцарскім Люцэрне этапе Кубка свету даволі няблага, робячы рашучыя крокі ў накірунку ўзнагародаў. Да таго ж гэтая грабная каманда была адной з асноўных беларускіх надзеяў на медалі ў алімпійскім Сіднеі. І вось цяпер гэтая надзея рухнула, ды яшчэ пакінула за сабою вялізны скандал. Метылтэстэрон і эпімецендзіол, якія ўжывалі беларускія цяпер ужо экс-спартсменкі, пажыццёва пазбавілі іх права займацца спортам прафесіянальна.

І гэта было б нават не самым страшным, але цяпер сусветная федэрацыя грабных відаў спорту мае намер узяць пробы на допінг і ў астатніх шасці спартсменак з вялікай упэўненасцю, што і яны небязгрэшныя. А ў складзе гэтай шасцёркі і знакамітая Кацярына Хадатовіч-Карстэн, адзіная беларуская спартсменка за ўсю суверэнную гісторыю, якая прынесла краіне залаты алімпійскі медаль і разлічвала на гэты медаль і ў верасні ў Сіднеі. Кіраўнік Нацыянальнага алімпійскага камітэта А.Лукашэнка асабіста не раз прымаў у сябе і Хадатовіч, і ўсю яе грабную каманду ды пасля прыводзіў іншым спартсменам у прыклад. Што, цікава, ён будзе казаць цяпер, калі на «мундзіры» алімпійскага гонару Беларусі пасаджаная пляма ледзь не большая за сам мундзір? ■

## Прайшлі ў другі кваліфікацыйны раўнд

Алесь ШМЯЛЁЎ

Дзякуючы перамозе з лікам 2:1 на сваім полі ў Барысаве над армянскім «Шыракам» з горада Гюмры барысаўскі БАТЭ трапіў у наступную стадыю розыгрышу еўрапейскай футбольнай Лігі чэмпіёнаў. Нагадаем, тыднем раней у Арменіі каманды згулялі ўнічыю — 1:1. Гэтую перамогу над слабым у прынцыпе сапернікам можна адзначыць па той прычыне, што ўжо вельмі даўно беларускія футбольныя клубы не праходзілі ніякіх стадыяў у еўракубках, а тым больш у Лізе чэмпіёнаў. Але цяпер барысаўчан чакае сапернік куды больш значны – шведскі клуб «Хельсінборг», і трапіць у апошні кваліфікацыйны раўнд БАТЭ будзе вельмі складана. Гульні пройдуць напачатку жніўня. ■

Фота IREX/ProMedia

## «Кубак незалежнасці» сярод моладзі

Аляксей СТАЎСКІ

Як ужо паведамляла НАША СВАБОДА, 30 ліпеня Вярхоўны Савет мае намер правесці ў Мінску «Кубак незалежнасці» па футболе сярод партыяў і палітычных аб'яднанняў. А вось барысаўскі спартыўны клуб «Волат» тыднем раней, з 21 па 23 ліпеня, на футбольных пляцоўках каля вёскі Дымкі (пад Барысавам) разыграе «Кубак незалежнасці» сярод моладзі. Прычым, у адрозненне ад мінскага турніру, на барысаўскім будзе прадстаўлены ўвесь спектр беларускіх гарадоў. Гэта і Брэст, і Гродна, і Мінск, і Віцебск, і г.д. У самім Барысаве нават праводзіўся адборачны турнір сярод мясцовых камандаў з мэтай вызначыць толькі некалькі лепшых, што будуць прадстаўляць горад. Акрамя ўласна турніру, ягоных удзельнікаў, што будуць жыць у намётах тры дні, чакае разнастайная забаўляльная праграма. А аб выніках розыгрышу НАША СВАБОДА паведаміць у наступным нумары. ■

## Беларусы — чэмпіёны Еўропы па гандболе. Пакуль што пляжным

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Вельмі прыемная навіна (што ў беларускім спорце бывае не так ужо і часта) прыйшла ў Мінск з італьянскіх... пляжаў, дзе праходзіў першы чэмпіянат Еўропы па новым відзе спорту — пляжным гандболе. Дастаткова нядаўна з'явіўшыся, ён ужо мае вельмі вялікую колькасць прыхільнікаў ва ўсім свеце дзякуючы сваёй дэмакратычнасці і цікавым новаўвядзенням у правілы гульні ў стандартны гандбол. На працягу чэмпіянату беларусы абыгралі туркаў, рускіх, украінцаў (двойчы), немцаў, у фінале іспанцаў і заслужана заваявалі галоўны прыз і пуцёўку на чэмпіянат свету па гэтым відзе спорту ў Бразілію будучай зімою. Застаецца пажадаць падапечным галоўнага трэнера Спартака Міpaновіча, каб падобных поспехаў нашы гандбалісты дабіваліся і ў больш прэстыжным «вялікім» гандболе. ■

# Первый президент

Оксана ХАРЛАН

**В июне 1994 года белорусский народ избрал себе первого президента. Скоро некоторые недовольные стали говорить: не повезло. Но не мешает знать, что невезение на выборах — распространенное явление. В истории достаточно примеров подобного «невезения» (правда, все больше в Африке, Латинской Америке и в Азии). Например, двадцать лет в Индонезии правил ее первый президент Сукарно. Его смело можно назвать самым большим демагогом своего времени. Когда перед ним возникала проблема, он решал ее лозунгом. Девиз его правления: «Главное в нашей демократии — это руководство».**

Восковое изображение президента Сукарно

Справедливости ради стоит сказать, что при всех недостатках Сукарно обладал одним неоспоримым достоинством — он привел страну к независимости (до 1945 года Индонезия была Голландской колонией). Но как только не стало внешнего врага, президент столкнулся с врагом внутренним — экономикой, и что с ней делать, он не знал. Однако признаваться в этом президенту не хотелось, и потому он постоянно искал врагов, которые мешали ему заниматься улучшением благосостояния народа.

Начать Сукарно решил с партий, которые, по его мнению, вызывали политическую нестабильность в стране. *«Будем откровенны, братья и сестры*, — говорил он, — *в 1945 году мы сделали большую ошибку, призвав к организации партий. Теперь эта ошибка оборачивается против нас. Я призываю молодежь объединиться и похоронить все партии»*. Но как только в ответ на этот призыв премьер-министр Индонезии пригрозил отставкой, Сукарно заявил, что его неправильно поняли, он, мол, призывал лишь к упрощению партийной системы.

Не похоронив партии, президент принялся за политическую систему в целом. Уж слишком много демократии увидел он в своей стране. «*Индонезийцам нет нужды копировать иностранные концепции демократии. То, что я хотел бы предложить для Индонезии, — это направляемая демократия, — хоть и руководимая, но демократия*, — заявил он на конгрессе Союза учителей. — *Я не стремлюсь стать диктатором. Я демократ, но моя демократия не либеральная. Моя демократия призвана усилить контролирующую и направляющую роль государства в политике и экономике*».

Опираясь на активную поддержку армии и полиции, Сукарно поставил своей задачей изъять вопрос о власти из сферы межпартийных отношений, сделать для любой партии бесперспективной борьбу за нее. Для этого он стал создавать Национальный совет, функционирующий параллельно с парламентом. Все члены этого совета представляли не партии, а различные общественные слои или группы в соответствии с их функциями в сфере производства и их вкладом в создание «справедливого и процветающего общества». Кроме того, все кандидатуры предварительно одобрялись самим Сукарно.

Создание Национального совета не предусматривалось действующей конституцией. Парламент должен был сначала внести в нее соответствующие поправки. Но парламент не собирался это делать. Тогда Сукарно специальным декретом распустил законодателей и восстановил конституцию 1945 года (в 1950 году парламент принял более демократичный основной закон), наделяющую президента всей полнотой исполнительной и законодательной власти. Оппозиция расценила этот шаг как государственный переворот. А Сукарно назвал своих противников пособниками империалистов.

Вскоре на местах очередным декретом была создана власть по образу и подобию центральной. Президентская вертикаль дотянулась до каждой глухой деревушки. Армия чиновников росла, как на дрожжах. Сукарно тем временем издавал декрет за декретом. Одним из них президент объявил о составе нового парламента. 130 законодателей было назначено от пяти лояльных политических партий, 153 — от беспартийных. Новый парламент был, в сущности, лишен реальной власти. Его функции сводились лишь к одобрению решений президента.

Однако и этого показалось мало. Сукарно захотелось стать пожизненным президентом. Для этого один из его приближенных заявил, что идея пожизненного правления уже давно овладела массами. Мол, люди на каждых последующих выборах хотят избирать непременно Сукарно, а значит, лучше сэкономить народные деньги и сразу избрать президента на всю его жизнь. На том и порешили. Большинство индонезийцев искренне почитало своего президента. Многим казалось, что его просто вводят в заблуждение, но он делает для народа все возможное. Народ обвинял в плохом управлении страной помощников Сукарно.

Сам Сукарно предпочитал окружать себя только теми, кто во всем с ним соглашался, объявлял каждый его шаг великим, а каждую идею — единственно правильной. Круг его экономических советников постоянно расширялся. Советники, как правило, были не экономистами, а людьми с огоньком в глазах. В то время, как доходы страны катастрофически таяли, бюрократический аппарат расширялся. В стране насчитывалось более 700 тысяч чиновников. Сукарно утверждал все новые и новые министерские посты. К концу правления президента его кабинет стали называть «кабинетом ста», поскольку в нем было 100 министров. Не без основания шутили, что сам президент не знает в лицо всех членов правительства.

В это время один экономический спад сменял другой. Росли коррупция, валютные махинации, взяточничество. А Сукарно принимал декреты, которые должны были стабилизировать цены, остановить инфляцию, сделать сельское хозяйство основой индонезийской экономики. Официальный курс индонезийской рупии составлял 45 к 1 доллару, в то время как на черном рынке за один доллар давали 9 тысяч рупий, а позже и 20 тысяч. В 1962 году Индонезия выпустила банкноту номиналом в 2.500, в 1963 — 5.000, а в 1964 — 10.000 рупий. Количество пустых денег увеличивалось в арифметической прогрессии. Но президент обещал, что через год экономические трудности будут преодолены.

Его любимым делом было произносить речи и строить дворцы. За 20 лет правления Сукарно было начато строительство 350 грандиозных объектов. Однако из них в строй вступили единицы. Памятники, монументальные здания правительственных учреждений и дворцы по замыслу президента должны были определить облик будущего страны. Для финансирования всех этих объектов был даже создан специальный фонд, жертвовать в который обязаны были практически все жители Индонезии.

Генерал Сухарто, второй президент Индонезии, правил 33 года

В конце концов, терпение народа кончилось. В 1965 году начались массовые студенческие волнения, которые затем поддержали другие слои общества, в том числе и армия. Воспользовавшись народным недовольством, власть в стране прибрал к рукам ближайший соратник президента генерал Сухарто. Он стал вторым индонезийским президентом, и тоже диктатором, и его спустя 33 года сверг все тот же доверчивый и многострадальный народ. Индонезии не повезло дважды.

Мы можем только посочувствовать индонезийцам, у нас преимущество: наш первый президент правит всего только седьмой год. ■

СУВЯЗЬ ЧАСОЎ

Мінск, вул.К.Маркса, спуск да дзіцячага парку, 1950-я гады

Фота Ул ШЛАПАКА

Мінск, тое самае месца, 2000 год

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка»
УП «Паліграфкамбінат ім. Я.Коласа» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1792 Нумар падпісаны ў друк 20/07/2000 (15:00) Наклад — 9.180

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018